

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48 (683) 8 СНЕЖНЯ 2004 г.



**Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь**
вул. К. Маркса, 32
220016, г. Мінск
тэл. (017) 227-80-12,
факс (017) 227-52-09
E-mail: ksrb@user.unibel.by

**Конституционный Суд Республики Беларусь**
ул. К. Маркса, 32
220016, г. Минск
тел. (017) 227-80-12,
факс (017) 227-52-09
E-mail: ksrb@user.unibel.by

02.11.2004 № 05-07/1295
на № ________ ад ____________

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А.А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Ваш зварот ад 3 лістапада 2004 г. № 240 разгледжаны.

У сувязі з фарміраваннем новага саставу Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Канстытуцыйны Суд паўторна накіраваў нававыбранаму саставу заканадаўчага органа рашэнне ад 4 снежня 2003 г. "Аб выкарыстанні беларускай і рускай моў у сферы абслугоўвання, абарачэння банкаўскіх пластыкавых картак і ў сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання" з прапановай аб неабходнасці ўдасканальвання Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" з мэтай прыняцця на заканадаўчым узроўні мер па забеспячэнні фактычнай роўнасці дзяржаўных моў-беларускай і рускай.

**Старшыня – Р.А. Васілевіч.**

# 15 снежня спаўняецца 70 гадоў
# СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ



### Шаноўны Станіслаў Станіслававіч!

Таварыства беларускай мовы сардэчна віншуе Вас, дзяржаўнага дзеяча, вучонага, прафесара, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь з слаўным юбілеем, 70-годдзем ад Дня народзінаў. Мы ганарымся, што вядомы свету палітык, навуковец ў галіне радыёфізікі, доктар фізіка-матэматычных навук – актыўны сябра нашай грамадскай арганізацыі. Дзякуючы Вам, у краіне былі аднаўлены старажытныя дзяржаўныя сімвалы: герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы сцяг. Тыя незабыўныя 1991-1994 гады Вашага старшынства ў Вярхоўным Савеце, калі Беларусь жыла пад знакам "Пагоні", былі сапраўдным глытком свабоды. За гэты кароткі час паўстала новае маладое пакалення свядомых беларусаў, у грамадстве абудзілася цікавасць да сваёй гісторыі. Пра Вашу сумленнасць і адкрытасць сведчыць своеасаблівая споведзь перад самім сабой, перад беларускім народам, якая сёлета друкавалася ў "Народнай волі" пад назовам "Мой лёс".

Верым, што Ваш багаты досвед палітыка, вучонага, грамадскага дзеяча ў хуткім часе зноў будзе запатрабаваны.

Жадаем Вам моцы і нязломнай веры ў Беларусь.

Жыве Беларусь!

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

*(Пра Станіслава Шушкевіча чытайце на ст. 2.)*

# Жураўліная пара

9 снежня ў сталічным Доме літаратара адбылася прэзентацыя новай кнігі вершаў Генадзя Бураўкіна "Жураўліная пара". Шлях гэтага паэтычнага зборніка да чытача быў доўгім і няпростым, падобным да лёсу самых таленавітых і вядомых літаратараў краіны, які напаткаў іх на мяжы стагоддзяў, калі роднае слова трапіла ў няміласць чыноўнікаў пры ўладзе і не падтрымліваецца дзяржавай. Страціўшы надзею надрукаваць кнігу ў "Мастацкай літаратуры", аўтар вымушаны быў забраць рукапіс і пры падтрымцы расійска-беларускага фонду "За новую Беларусь" выдаць кнігу ў "Беларускім кнігазборы".

Паўнютка зала Дома літар-атара нагадвала ў гэты снежаньскі вечар дружную беларускую сям'ю аматараў паэзіі, прыхільнікаў таленту паэта, сяброў, калегаў па пяры, грамадскай і палітычнай дзейнасці. Усіх іх паклікала Асоба Генадзя Бураўкіна, яго шматгранны талент, шчырае паэтычнае слова. Шмат цікавага можна было пачуць на гэтай вечарыне: мудрыя і дасціпныя жарты вядоўцы Рыгора Барадуліна, прамовы літаратараў — Барыса Пятровіча, Кастуся Цвіркі, Валянціна Блакіта, Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, узнёслае выступленне пробашча касцёла святых Сымона і Алены Уладзіслава Завальнюка, шчырыя, пранікнёныя словы віншавання народнай артысткі Марыі Захарэвіч. Народныя мастакі Леанід Шчамялёў ды Гаўрыла Вашчанка разам з старшынём Беларускага саюзу мастакоў Уладзімірам Басалыгам завіталі з падарункам, творам Ул. Басалыгі "Слуцкая брама".

Генадзь Бураўкін
Жураўліная пара

Пасля традыцыйных віншаванняў зала трапіла ў палон самога паэта. Удзельнікі вечарыны мелі асалоду слухаць вершы ў адметным аўтарскім выкананні. У вершах Генадзя Бураўкіна, як слушна адзначана ў анатацыі да кнігі, — роздум аб развітанні з мінулым векам, аб трывогах, сумненнях і надзеях, якія хвалююць неабыякавую душу на парозе новага тысячагоддзя.

Пра тых, хто забыўся, дзе жыве і што складае духоўныя каштоўнасці народа, трапна сказана ў вершы "Здрайцам Беларусі".

*Забылі лёгка вы*
*І продкаў магілы,*
*І праведную кроў,*
*І матчын запавет,*
*Апосталаў сваіх*
*І нават –*
*Божа мілы! –*
*Гаворку землякоў,*
*З якой прышлі на свет.*

Кніга "Жураўліная пара" выдадзеная накладам 1000 асобнікаў. Яе можна было набыць і атрымаць аўтограф Генадзя Бураўкіна падчас вечарыны.

*ІрМа.*

*Генадзю Бураўкіну*

## АКРАВЕРШ

**Б**яжыць няспынна час,
**У** вечнасць адыходзіць
**Р**азгубленасць іржой з'ядае нас.
**А**дных яна ў халуйства зводзіць
**Ў** цябе ж ёсць незалежны погляд свой
**К**рычыць твая душа ад болю,
**І** чысты голас твой сцвярджаць бярусь,
**Н**адзею нам дае, што ВОЛЮ
**У**бачыць неўзабаве БЕЛАРУСЬ!

*Фелікс Шкірманкоў, Слаўгарад.*





# ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

*(Працяг. Пач. у пап. нум.)*

**2000 год.**

**9 жніўня.**
У кінатэатры "Змена" адбылася вечарына да юбілею Ларысы Геніюш, 90-годдзя ад Дня нараджэння.

**Верасень 2000-чэрвень 2001 гг.**
Рупнасцю Святланы Багданкевіч арганізаваныя курсы па вывучэнні беларускай мовы: для пачаткоўцаў (Станіслава Філіповіч), для тых, хто ўдасканальвае сваё веданне мовы (Валянціна Раманцэвіч) і па культуры мовы (Людміла Дзіцэвіч).

**Верасень.**
Таварыства беларускай мовы падвяло вынікі конкурсу сярод школьнікаў і студэнтаў г. Менска "Ведайце свой горад".

**8 кастрычніка.**
З ініцыятывы Вячкі Станкевіча пачаў сваю працу семінар "Я магу жыць лепей".

**14 кастрычніка.**
У кінатэатры "Змена" праведзены шэраг мерапрыемстваў:
-навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць". Прачытана 10 дакладаў, прынятая рэзалюцыя;
-паседжанне Рэспубліканскай Рады. На Радзе прынятыя пастановы: "Аб асноўных кірунках дзейнасці ТБМ з лістапада 2000 г. па красавік 2001 г.", "Аб змяненні памеру штогадовых складак сяброў ТБМ", "Аб распрацоўцы канцэпцыі новай газеты ТБМ";
- вечарына ў сувязі з 60-годдзем Кастуся Тарасава, выбітнага беларускага пісьменніка і гісторыка.

**25 кастрычніка.**
"Наша слова" атрымала неабгрунтаваннае папярэджанне ад Дзяржкамітэта па друку Рэспублікі Беларусь за публікацыю звароту Гарадзенскай арганізацыі дэмакратычных ветэранаў.

**Кастрычнік.**
У сядзібе ТБМ адкрылася пастаянная выстава беларускіх кніг, аўдыё і відэакасет.
Па просьбе Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь сябры Таварыства распачалі працу па перакладу на беларускую мову вайсковых статутаў. Сябра Рады Вольга Кузьміч на грамадскіх пачатках распачала працу па перакладу Дысцыплінарнага статуту.

**8 лістапада.**
"Наша слова" паведамляе, што на 1 лістапада 2000 г. сабрана 33926 подпісаў за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.

**26 лістапада.**
У кінатэатры "Змена" ТБМ святкавала 70-ыя ўгодкі Уладзіміра Караткевіча. Да юбілею пісьменніка Таварыства ажыццявіла выпуск кішэннага каляндарыка на 2001 год (макет Міколы Купавы). Дэманстраваліся кінастужкі "Уладзімір Караткевіч. Мсціслаў", "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" (некалькі частак).

**7 снежня.**
Джяржкамітэт па друку Рэспублікі Беларусь адмяніў вынесенае раней рэдакцыі "Наша слова" папярэджанне.

**21 снежня.**
Прыняты зварот сакратарыята да грамадзян, партый і грамадскіх арганізацый з нагоды распрацаванага Нацыянальным цэнтрам законатворчай дзейнасці пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь новага праекту "Закона аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", які мяркуецца амаль цалкам знішчыць беларускамоўную адукацыю.
Прынята заява, у якой выказаны рашучы пратэст супраць новага праекту "Закона аб адукацыі".

*(Працяг у наст. нумары.)*

# "Акадэмкніга" прапануе

***Насоўваюцца Каляды і Новы год. А сцверджанне, што, мабыць, кніга — найлепшы падарунак можна абспрэчыць, але не абвергнуць канчаткова. Таму мы вырашылі праінфармаваць нашых чытачоў аб новых паступленнях беларускай кнігі ў сталічнаю кнігарню "Акадэмкніга", што на праспекце Скарыны, 72.***

1. Лазука Б.А. Гісторыя мастацтваў. – Мн.: Беларусь, ʻеba XX века в собрании Национального художественного музея РБ. – Мн.: Четыре четверти, 2002. – 152 с. – 19255 руб.
2. Беларусы. Т.5 Сям'я./В.К.Бандарчык. – Мн.: Бел.навука, 2001. – 375 с. – 4210 руб.
3. Беларусы. Грамадскія традыцыі. Т. 6. – Мн.: Бел.навука, 2002. – 606 с. – 9860 руб.
4. Маленка Л.І. Беларускі народны касцюм. – Мн.: Ураджай, 2001. – 160 с. – 4800 руб.
5. Скорабагатчанка А. Беларускія народныя музычныя інструменты XX стагоддзя. – Мн.:Беларуская навука, 2001. – 398 с. – 15110 руб.
6. Лабачэўская В. Повязь часоў – беларускі ручнік. – Мн.: Беларусь, 2002. – 230 с. – 8060 руб.
7. Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 2. Са старажытных часоў да нашых дзён. Ад рэформы 1861 г. да сакавіка 1917 г. – Мн.: Бел.навука, 2002. – 552 с. – 7300 руб.
8. Народная культура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік./В.С.Цітоў. – Мн.: БелЭН, 2002. – 430 с. – 8280 руб.
9. Русецкі А.У., Русецкі Ю.А. Мастацкая культура Аршанскай зямлі ў канцы X-XIX стагоддзях. – Мн.: БелЭН, 2002. – 230 с. – 20800 руб.
10. Народныя мастацкія рамёслы Беларусі/ Уклад. Я.М.Сахута. – Мн.: Беларусь, 2001. – 168 с. – 3450 руб.
11. Сахута Я. Беларускае народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. – Мн.: Беларусь, 2001. – 110 с. – 2790 руб.
12. Кухаронак Т.І. Маскі ў каляндарнай абраднасці беларусаў. – Мн.: Ураджай, 2001. – 239 с. – 3440 руб.
13. Раговіч У.І. Песенны фальклор Палесся. Т.1. Песні святочнага календара. – Мн.: Чатыры чвэрці, 2001. – 527 с. – 5750 руб.
14. Цітоў В.С. Этнаграфічная спадчына. Беларусь. Традыцыйна-бытавая куль-тура. – Мн.: Беларусь, 2001. – 207 с. – 4270 руб.
15. Алесь Лозка. Беларускі народны калян-дар.- Мн.: Полымя, 2002. – 238 с. – 2840 руб.
16. Ненадавец А.М. Сілаю слова. Чорная і белая магія./для этнографаў/. – Мн.: Беларусь, 2002. – 350 с. – 4110 руб.
17. Цітоў А. Менск – места майстроў. Рамесныя цэхі XYI-XYШ стст. – Мн.: Беларусь, 2002. – 110 с. – 2710 руб.
18. Азёры Беларусі ў легендах і паданнях. – Мн.: Беларусь, 2003. – 327 с. – 2780 руб.
19. Янка Крук. Сімволіка беларускай народнай культуры. – Мн.: Беларусь, 2003. – 350 с. – 7670 руб.
20. Парашкоў С.А. Гісторыя культуры Беларусі. – Мн.: Бел.навука, 2003. – 444 с. – 3330 руб.
21. Крывальцэвіч М. Археалягічныя адкрыцці сьвету. – Менск: 2000. - 124 с. – 3280 руб.
22. Гродна. Фотаальбом. – Мн.: Беларусь, 2003. – 14930 руб.
23. Гурэвіч Ф.Д. Летапісны Наваградак. – СПб-Наваградак, 2003. – 320 с. – 19200 руб.
24. Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. Гістарычна-археалагічны нарыс горада ад старажытных часоў да канца ХУШ ст. – Мн.: Бел. Навука, 2003. - 167 с. – 4880 руб.
25. Полацк. Фотаальбом. – Мн.: Беларусь, 2002.- 145 с. – 4970 руб.

# Станіслаў Станіслававіч

Ён чалавек вядомы на Беларусі і ў свеце адначасова. Таму і ў краіне не шмат. Наконт яго ў народзе "гуляе" многа чутак, казак і домыслаў. Мабыць гэта лёс кожнага вядомага чалавека. Нехта "запусціў" у народ плётку, што ён – картачны шулер. Яна (плётка) "гуляе" у электрацягніках сярод аматараў лецішчаў ужо шмат гадкоў.

Насамрэч Станіслаў Шушкевіч нарадзіўся 15 снежня 1934 года ў горадзе Менску. У 1956 ён скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Доктар фізіка-матэматычных навук (1970), прафесар (1973), член-карэспандэнт НАН Беларусі (1991). Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута фізікі АН БССР (1956-1960), старэйшым інжынерам на Менскім радыёзаводзе (1960-1961), старэйшым, галоўным інжынерам лабараторыі, загадчыкам сектара БДУ (1961-1967), прарэктарам па навуковай працы Менскага радыётэхнічнага інстытута (1967-1969), дацэнтам, прафесарам, загадчыкам кафедры ядзернай фізікі і электронікі, прарэктарам па навуковай працы ў БДУ (1969-1990). Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі (1990-1995), першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета (1990-1991), Старшыня Вярхоўнага Савета (1991-1994). Дэпутат Вярхоўнага Савета ССС (1989-1991). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1982). Узнагароджаны прэміяй Савета Міністраў СССР (1985) і Дзяржаўнай прэміяй БССР (1988), за падручнік "Асновы радыёэлектронікі". Аўтар больш чым 150 навуковых прац, 72 вынаходніцтваў ...

Асабіста я пазнаёміўся з С. С. Шушкевічам увосень 2000 года падчас адной з акцый. Пабойваўся, калі падыходзіў да яго, але мяне "сустрэў" Станіслаў Станіслававіч ветліва на прыгожай беларускай мове. Мяне, маладога, Шушкевіч уразіў сваёй інтэлігентнасцю і мабільнасцю. На плошчы Бангалор сп. Станіслаў падараваў мне сваю візітоўку, бо яго цікавілі праблемы сучаснай беларускай моладзі.

У чэрвені 2002 года ў газеце "Наша ніва" была надрукавана інфармацыя, што сп. Станіслаў напісаў цікавую кнігу "Неакамунізм на Беларусі" накладам 1000 асобнікаў. Было заяўлена, што кніга ні ў якія крамы не трапіць, а распаўсюдзіцца сярод знаёмых аўтара... Звярнуўся да сакратаркі сп. Станіслава, а ўжо праз дзень я атрымаў кнігу з аўтографам першага кіраўніка Беларусі!

Гэта кніга выдадзена ў Смаленску і прысвечана памкненням палітычнага і эканамічнага рэфармавання Беларусі, пра сілы, што перашкаджаюць прагрэсіўным рэформам, пра тое, як краіна, якая знаходзілася ў лепшых умовах, чым Літва, Латвія і, нават, Польшча, апынулася ў стане крызісу, наконт шанцаў Беларусі стаць прававой дэмакратычнай дзяржавай заможных грамадзян.

Шаноўны аўтар падрабязна разглядае праблемы беларускага неакамунізму, яго ідэалогію і практыку, праблемы аўтарытарызму ў СНД і Беларусі, эканамічныя і сацыяльныя вынікі неакамуністычнай палітыкі, падзеі апошніх месяцаў (2002 год).

Сп. Станіслаў у кнізе закранае і праблемы беларускай апазіцыі – адзінкі "грантасмокаў" і ўсю астатнюю шчырую апазіцыю. Кніга аб'ектыўна дае адзнаку сучаснаму моманту. Асабіста я знайшоў у гэтым навуковым выданні шмат разумных і шчырых думак аўтара.

Я шмат чытаю рознай літаратуры, але не шмат кніг па-сапраўднаму ўражвае, як уразіла мяне апошняя кніга шаноўнага Станіслава Станіслававіча Шушкевіча. Думаю, што выданне не дрэнна было бы паравыдаць, бо 1000 асобнікаў – наклад мізэрны, а варта было бы мець яе ў кожнай сям'і на Беларусі!

Станислав Шушкевич
НЕОКОММУНИЗМ в Беларуси:
идеология, практика, перспективы
Подготовлено при поддержке Фонда Джона Д. и Кэтрин Т. Макартуров
Аляксею Леанідавічу Шалахоўскаму, на добрую памяць.
З дабразычлівасцю,
С. Шушкевіч
19 чэрвеня 2002 г.
Смоленск 2002

У мяне ёсць і кнігі з аўтографамі Адама Глёбуса, Веры Страшкоўскай, Зінаіды Бравьарскай, Веранікі Ярмалінскай, Рыгора Цісецкага.

Недзе ёсць і аўтограф Піліпа Бедрасавіча Кіркорава, Яўгена Хаўтана, але аўтографам сп. Станіслава я па-сапраўднаму ганаруся!

...Увесну 2003 года нас зноў звёў лёс са спадаром Станіславам.

Хавалі Георгія Таразевіча (1937-2003) на Маскоўскіх могілках. Прысутнічала шмат сяброў, старой партнаменклатуры. З дэмакратаў былі Статкевіч і Малашка. Памінкі па намесніку старшыні Прэзідыюму Вярхоўнага Савета СССР (1985-1989) адбываліся ў Менскім Доме літаратара, у рэстарацыі.

У сувязі з тым, што я нікога тут амаль не ведаў асабіста, акрамя Шушкевіча, сеў каля яго. Размаўлялі. Было заўважана, што п'е Станіслаў Станіслававіч трохі "цішэй" усіх прысутных. Шушкевіч заўважыў, што я п'ю мала таксама і нават сказаў, што "ў мае гады быў мацнейшы ў пітве". А што думаў я ў той момант? Я думаў пра тое, што ў народзе і сярод чыналенства нехта запускае плёткі на тэму "Станіслаў Станіслававіч і алкаголь". Каму гэта трэба?

На памінальным банкеце сп. Шушкевіч браў слова. Выступаў ён вельмі шчыра і прыгожа, бо ён і ёсць сапраўдны беларус, Шушкевіч - эталон беларуса! Гэту акалічнасць зразумеў я ў дзень пахавання сп. Таразевіча.

Бачыў я сп. Шушкевіча і на пахаванні Васіля Быкава (1924-2003). Павіталіся, але не размаўлялі, бо не было часу!

Перад выбарамі даведаўся, што сп. Станіслаў балатуецца ў парламент. Асабіста я – не прыхільнік таго, калі пенсіянеры займаюць высокія пасады, але разумеў, што выпадак – выключны, бо пенсіянер Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч на некалькі парадкаў вышэй той шэрай масы, якая ніяк сабе не праявіла і не праявіць!

Асабіста я шчыра жадаў шаноўнаму Станіславу Станіслававічу перамогі, бо менавіта ён – малады духам і па-сапраўднаму разумее простых людзей, людзей працы, бо менавіта ён паважае беларускую моладзь і мае вялікі аўтарытэт у грамадстве!

Нажаль, у гэты раз сп. Шушкевіч аказаўся ў нашым парламенце непатрэбным, як аказаліся непатрэбнымі ўсе, хто мог неяк з той шэрай масы выдзеліцца.

*Аляксей Шалахоўскі, гісторык, 28 год.*

*Анатоль Грыцкевіч,*
*доктар гістарычных навук.*

# Дзень 7 лістапада — гісторыя свята і спроба яго замяніць у Расіі

7 лістапада з'яўляецца дзяржаўным святочным днём у Беларусі і адзначаецца ўжо 10 гадоў. Гэта было свята ў Савецкім Саюзе — дзень Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ў знак памяці дня бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе 25 кастрычніка (7 лістапада паводле новага стылю) 1917 г., калі бальшавікі сіламі рэвалюцыйных матросаў Балтыйскага флоту і салдатаў Петраградскага гарнізону захапілі Зімовы палац, арыштавалі часовы ўрад Расіі і на II Усерасійскім з'ездзе саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў абвясцілі аб пераходзе ўлады да саветаў (пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў). Савецкае свята Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ўрачыста, з вайсковымі парадамі і дэманстрацыямі працоўных адзначалася ва ўсіх буйных і малых гарадах Савецкага Саюза. Свята гэтае існавала да распаду СССР і апошні раз адзначалася афіцыйна і ўрачыста ў 1991 годзе.

Пасля абвяшчэння незалежнасці былымі саюзнымі рэспублікамі гэтае свята як дзяржаўнае знікла. Яно па-ранейшаму адзначалася камуністамі і іх прыхільнікамі, ужо з пачуццём настальгіі па страчанаму СССР.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання 19 снежня 1991 г. прыняў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь". У пералік святочных дзён у законе дзень 7 лістапада не быў уключаны. Блізкім па даце стала свята Дня памяці 2 лістапада, якое па народнай традыцыі называецца Дзяды.

Пасля ўстанаўлення ў Беларусі прэзідэнцкага рэжыму адносіны да бальшавіцкага свята ва ўладных структурах змяніліся. Гэтае свята было вернутае, а некаторыя святочныя дні скасаваны. Прэзідэнцкім указам ад 26 сакавіка 1998 г. былі канчаткова замацаваныя святочныя дні. Замест Дня памяці афіцыйным святочным днём зноў стаў дзень 7 лістапада, як дзень Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Дарэчы, да пачатку 30-х гадоў XX ст. у Савецкім Саюзе дзень 7 лістапада так не называўся. Ленін і яго паплечнікі называлі падзеі 7 лістапада 1917 г. "кастрычніцкім пераваротам", лічачы, што рэвалюцыя 1917 г. у Расіі як пачалася ў лютым таго года, так і працягвалася далей, каб урэшце перарасці ў сусветную рэвалюцыю з усталяваннем савецкай улады па ўсёй планеце. А кастрычніцкі пераварот быў толькі важным этапам рэвалюцыі ў Расіі.

Пасля адхілення ад улады ўсіх сваіх сапернікаў, іншых лідэраў бальшавіцкай партыі, Сталін на пачатку 30-х гадоў XX ст. увёў ужо новы тэрмін замест "кастрычніцкага перавароту" — Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, які трывала ўвайшоў ва ўжытак бальшавіцкай прапаганды і застаўся да нашага часу. Такім чынам, у Рэспубліцы Беларусь цяпер адзначаецца гэтае свята ў фармуліроўцы Сталіна (нават не Леніна).

У Расійскай Федэрацыі, як вядома, галоўным дзяржаўным святам з'яўляецца Дзень незалежнасці (12 чэрвеня), гэта значыць дзень прыняцця 1-ым з'ездам народных дэпутатаў РСФСР ў 1990 г. Дэкларацыі аб незалежнасці, якой абвяшчаўся дзяржаўны суверэнітэт Расіі. А 7 лістапада стала адзначацца як дзень прымірэння і згоды. Лічылася, што такім чынам можна прымірыць народ Расіі, і згодных з камуністычным рэжымам, і яго праціўнікаў. Зразумела, што назва аказалася штучнай. Яна не адпавядала сутнасці кастрычніцкага перавароту 25 кастрычніка 1917 г. і яго наступстваў.

Прыкладна месяц таму назад Руская Праваслаўная царква і Міжрэлігійны савет Расіі выступілі з ініцыятывай змяніць свята 7 лістапада на іншы дзень, блізкі па часе. Патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Алексій II прапанаваў дзень 4 лістапада, дзень заканчэння Смуты ў Расійскім царстве ў пачатку XVII ст., матывуючы гэта тым, што як раз у гэты дзень Масква была вызвалена расійскім апалчэннем ад польска-літоўскіх інтэрвентаў. Прапанавана гэты дзень абвясціць у Расіі Днём народнага адзінства, а 7 лістапада зноў абвясціць днём Кастрычніцкай рэвалюцыі (для прыхільнікаў камуністычнай ідэалогіі, але не як агульнадзяржаўнае свята). Дзень 4 лістапада з'яўляецца царкоўным святам цудатворнага абраза Казанскай Божай Маці, якую вельмі шануюць у Праваслаўнай царкве. Хутчэй за ўсё замена свята будзе зроблена, бо гэтую ідэю падхапілі палітычныя дзеячы атачэння расійскага прэзідэнта У. Пуціна, а Дзяржаўная Дума падтрымае гэтую ініцыятыву Праваслаўнай царквы.

Аднак Смута ў Расіі не скончылася ні ў 1612 г., ні ў 1613 г. з абраннем царом Міхаіла Раманава, родапачынальніка царскай дынасты Раманавых. Барацьба, як унутры Расіі, так і з фармальна абвешчаным у Маскве ў 1610 г. царом, каралевічам Уладзіславам Сігізмундавічам (як яго называлі ў Расіі), які потым у 1632 — 1648 гг. быў каралём польскім і Вялікім князем літоўскім і за якога ў 1613 — 1618 гг. было нямала рускіх баяраў, дваранаў, гараджанаў, казакоў і сялянаў, працягвалася ажно да 1618 г., калі ўрэшце было заключана Дэўлінскае перамір'е (на 14 з паловай гадоў). Дарэчы, і тады (аж да 1634 г.) цар Уладзіслаў захаваў свой тытул "цар Маскоўскі і Ўсяе Русі" і крыжацалавальную грамату аб абранні, падпісаную баярамі, дваранамі і гараджанамі.

Да таго і дата 4 лістапада не супадае з датай поўнага вызвалення Масквы. Дарэчы, правільна было б назваць вызваленне Масквы вызваленнем ад польска-беларускіх акупантаў, бо шляхта з Беларусі складала значную частку гарнізона Масквы. У інтэрвенцыі ў Расію дзейнічалі і 12 рот выбранецкай пяхоты з Вялікага княства Літоўскага, з іх 10 з беларускіх паветаў.

Камандаванне маскоўскага гарнізона польска-беларускіх акупацыйных вайскоўцаў таксама было ў значнай ступені беларускага паходжання. Камандаваў адным з палкоў войска Вялікага Княства Літоўскага палкоўнік Язэп Будзіла, харунжы Мазырскі (ганаровы тытул у Мазырскім павеце), другім палком — Эразм Стравінскі (з беларускай шляхты, што жыла ў Мсціслаўскім і Менскім ваяводствах). Праўда, усім маскоўскім гарнізонам камандаваў палкоўнік Мікалай Струсь з падольскай шляхты ва Украіне.

Воіны другога апалчэння пад кіраўніцтвам К. Мініна і князя Дз. М. Пажарскага 22 кастрычніка штурмам узялі цэнтральную, умацаваную крапаснымі сценамі, частку Масквы, Кітай-горад (1 лістапада 1612 г. па новаму стылю). Аднак гарнізон Крамля трымаўся яшчэ некалькі дзён, нягледзячы на страшэнны голад, бо прывозу харчавання не было. Таму камандаванне гарнізона Крамля, па дамоўленасці з князем Дз. М. Пажарскім, як вайсковым камандзірам апалчэння, спачатку прасіла выпусціць свабодна з Крамля жонак рускіх баяраў і іншых рускіх людзей, якія супрацоўнічалі з акупантамі. Нягледзячы на пагрозы рускіх казакоў з першага апалчэння (пад кіраўніцтвам князя Дз. Трубяцкога), што яны заб'юць князя Дзмітрыя Пажарскага, які не даў ім рабаваць і гвалціць баярыняў і іншых рускіх жанчын, Дз. Пажарскі сам прыняў ля адной з брам Крамля жанчын і ўзяў іх пад апеку.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

# Анатолю Беламу - 65



**Сп. Анатолю Беламу,**
**Старшыні клуба "Спадчына"**

Шчыра віншую Вас, спадар Анатоль з 65-годдзем, а сяброў клуба "Спадчына" з 20-годдзем клуба. Клуб "Спадчына" - адна з першых беларускіх нацыянальных суполак, якая яшчэ да пачатку перабудовы савецкага грамадства ў нялёгкіх умовах пачала актыўную дзейнасць па прапагандзе і папулярызацыі беларускай гісторыі. Ад таго часу стварылася нямала беларускіх грамадскіх і палітычных арганізацый, клубаў, суполак. Многія з іх існавалі некалькі гадоў. Клуб "Спадчына", дзякуючы яго галоўнаму арганізатару, вядомаму грамадска-культурнаму дзеячу Анатолю Яўхімавічу Беламу і групе яго паплечнікаў, што складаюць ядро клуба, выстаяў і працягвае сваю актыўную дзейнасць.

Асобна трэба адзначыць і стварэнне прыватнага музея Анатоля Белага ў Старых Дарогах, дзе адчынена карцінная галярэя, а перад сядзібай музея пастаўлены помнікі дзеячам беларускай культуры.

Вялікую справу робіць клуб "Спадчына" і яго старшыня Антоль Белы ў адкрыцці помнікаў славутым сынам і дочкам Беларусі, як у самой Беларусі, так і ў Расіі (Яраслаўль).

Клуб за гэты час займаецца і выдавецкай справай, прэзентуючы альманахі з назвай клуба.

Клуб "Спадчына" дзейнічае і цяпер у агульным рэчышчы беларускага адраджэння.

Жадаю далейшых поспехаў сябрак клуба "Спадчына" і яго старшыні Анатолю Беламу ў іх шляхетнай справе Беларускага Адраджэння.

Жыве Беларусь!

***Анатоль Грыцкевіч,*** *кіраўнік міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", ганаровы сябра клубу "Спадчына".*

**Таварыства беларускай мовы, рэдакцыя газеты "Наша слова" далучаюцца да віншаванняў у адрас сп. Анатоля Белага і зычаць яму энергіі і плёну ў служэнні нашай любай матулі - Беларусі.**




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Карпота Мікола – 6000 р., г. Менск
2. Кліменценка – 5000 р., г. Менск
3. Кірылаў Г.Г. - -5000 р., г. Полацк
4. Скрэчка А. В – 10000 р., г. Мазыр
5. Шкірманкоў Ф. – 10000 р., г. Слаўгарад
6. Сяргейчык Аляксей – 6600 р., г. Менск
7. Дамашэвіч Уладзім. 20000 р., г. Менск
8. Алесь Чэчат – 5000 р., г. Менск
9. Талуць С. – 10000 р., г. Гомель
10. Лясковскі Ул. – 20000 р., г. Шаркаўш.
11. Казлоўская Іна – 2200 р., г. Менск
12. Генадзь Бураўкін – 10000 р., г. Менск
13. Фурс Антон – 5000 р. Пастава
14. Петруковіч Васіль – 16000 р., г. Менск
15. Шыдлоўскі Раман – 6000 р., г. Менск
16. Штыхаў Георг – 20000 р., г. Менск
17. Качаткоў Рус. - 30 дол., Таронта (Кан.)
18. Надзея Барт-Юрэвіч – 50 дол., Герм.
19. Івонка Сурвіла – 70 дол. Канада
20. Раіса Жук-Грышкевіч -300 дол., Кан.
21. Міцкевіч Я. Ф. – 5000 р. г. Менск
22. Оліна Э.І. – 3000 р., г. Менск
23. Судзілоўская І.Ю. – 10000 р., г. Гомель
24. Мельнікаў Юры – 5000 р., г. Навапол.
25. Мельнікаў А. Ю. – 5000 р., г. Навапол.
26. Кулік Анатоль – 5000 р., г. Навапол.
27. Святоха Генадзь – 5000 р., г. Навапол.
28. Рымша Алесь – 5000 р., г. Навапалацк
29. Марцынкевіч А. – 1000 р., г. Навапол.
30. Мерцалава Надз.. – 2000 р., г. Навап.
31. Рымша Сяргей – 3000 р., г. Навапол.
32. Жарнасек Ірэна – 4000 р., г. Навапол.
33. Івонка Сурвіла – 50 дол. ЗША., Кан.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**
атрымальнік плацяжу
**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**
назва банка
Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні на дзейнасць ТБМ | | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)*

Калі вярталіся назад, заехалі ў кавярню. Дзяўчынка Марына мела пару дзён назад дзень нараджэння. Яе ірландскія маці Мэры і бацька Порык арганізавалі торт са свечкамі і падарункі для ўсіх дзяцей. Вельмі цікава назіраць за нашымі дзецьмі, калі яны прымаюць падарункі. Цалкам адсутнічае спажывецкі налёт, і прымаюць гасцінцы з павагай, годнасцю і глыбокай удзячнасцю, па-гаспадарску складваюць іх у ванзэлкі. Але расстаюцца з імі лёгка. Як толькі хто папросіць, тут жа аддаюць без шкадавання. Відаць, навучыліся кампанейскасці ў інтарнаце.

Марына ўся свяцілася шчасцем. Ёй падабаецца яе ірландская сям'я, бацькі і дзеці. Я заязджала да іх паглядзець, паперакладаць. Мэры раней працавала фатографам, а цяпер дапамагае мужу і яго брату вырабляць кухні ў гаражы ва ўласным двары. Порык паспявае працаваць і на пажарнай станцыі, і ў кухонным бізнесе, і ў дабрачыннай арганізацыі. Ірландцы, увогуле, падобныя па ўвішнасці да беларусаў, толькі яны больш прагматычныя. Кухні, якія робіць сям'я Кофі, вельмі прыгожыя, мадэрновыя, і іх з ахвотаю набываюць.

**15. 07. 04. Чацвер.**

Сёння едзем у Дублін. Іман і Айлін Уэланы, якія даглядаюць сямігадовага чарняявенькага Вадзіма, вырашылі паказаць нам іх знакамітую сталіцу. Некалькі дзён назад я была ў прыгожым вялікім доме Уэланаў, паглядзела, як жывецца Вадзіму. Хлопчыку вельмі вольна гуляецца каля дома, дзе пасвяцца жывёлы гэтай сям'і: некалькі коней, авечак. Хлопец навучыўся іх даглядаць і быў шчаслівы. Мне вельмі спадабаліся гаспадары: інтэлігентныя, добразычлівыя. Яны нарадзіліся і жылі раней у Дубліне. Калі гутарка зайшла пра Дублін і маю мару пабачыць яго, Уэланы падахвоціліся звазіць мяне туды.

Надвор'е выдалася дажджлівае, аднак цёплае. Ведаючы, што я цікаўлюся старажытнымі, вырашылі раздзяліцца. Іман з хлопчыкам паехалі забаўляцца ў дзіцячы цэнтр, а мы накіраваліся ў старую частку Дубліна.



*Дзень нараджэння ў Марыны*



*Ля кафедральнага касцёла ў Дубліне*

*(Працяг у наст. нумары.)*

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Потым, пасля разгрому беларускага вайсковага руху ва Ўзброеных сілах Рэспублікі Беларусь, да якога шчыльна прыклаў руку сённяшні "дэмакрат" сп. П. Казлоўскі, часта падымалася пытанне, а ці трэба было склікаць гэты з'езд, ці трэба было "свяціць" нацыянальна свядомых беларускіх афіцэраў?

З гэтай нагоды я магу сказаць наступнае. Наша нацыянальная інтэлігенцыя, якая воляй лёсу зноў сталася рухавіком нацыянальнага адраджэння, вельмі слаба ўяўляла сітуацыю ў Савецкай Арміі і глядзела на яе, як на маналітную апору Масквы і Камуністычнай партыі. Яна баялася Савецкай Арміі і, як і прыбалты, была гатовая адмовіцца і адмахнуцца ад усяго, што было звязана з вайсковай справай у Савецкім Саюзе.

Правядзенне з'езду БЗВ дазволіла нашай інтэлігенцыі, нашым дэпутатам зразумець ролю беларускіх афіцэраў у Савецкай Арміі, зразумець іх настроі. Правядзенне з'езду дазволіла рассеяць страх перад войскам і потым у снежні 1991 года праводзіць правільную палітыку пры падзеле Узброеных Сілаў СССР.

А тое, што потым разгромілі вайсковы рух, то гэта не наступства з'езду. Некаторыя дэлегаты з'езду служаць у Беларускім войску да гэтага часу. Прычына разгрому якраз у слабасці гэтага руху, а гэта асобнае пытанне, на якое я яшчэ адкажу.

На з'ездзе прысутнічалі дэпутаты Вярхоўнага Савету, генералы, у тым ліку генерал-лейтэнант Асмалоўскі, камандуючы арміяй СПА, які пазней зробіць усё магчымае, каб забраць мяне з Казахстана ў Беларусь.

Цяжка сёння згадаць падрабязнасці тога з'езду. У першы дзень я сядзеў у прэзідыюме, а на другі дзень наогул вёў з'езд. Магу згадаць толькі ўражанне, якое зрабіў наш выхад з Дома літаратара і шэсце пад сцягамі з "Пагоняй" да помніка Янку Купалу. У новы час Менск упершыню бачыў столькі людзей у вайсковай форме пад "Пагоняй", якая сама яшчэ была для людзей за дзіва.

Як бы там не было з'езд адбыўся. Сёння ён неад'емная частка нашай гісторыі. Даволі падрабязна рэпартаж з таго з'езду пададзены ў 9-м нумары "Рокаша".

А пакуль што "Рокаш" не выходзіў. Яшчэ да з'езду БЗВ 28 верасня адбылася мая сустрэча з сябрамі Алма-Ацінскага культурнага асяродка "Беларусь".

Узначальваў асяродак народны дэпутат Казахстана, рэктар архітэктурна-будаўнічага інстытута, прафесар **Павел Атрушкевіч**, зараз ён казахстанскі сянатар. На той сустрэчы акрамя Паўла Атрушкевіча прысутнічалі: народны дэпутат Казахстана, старшыня гарвыканкаму г. Тастана, прэзідэнт Асацыяцыі малых гарадоў Казахстана **Тамара Жаваранкава**; прэзідэнт Асацыяцыі выпускнікоў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі **Яўген Іваноў** (родам са Смаленшчыны); адказны сакратар культурнага асяродка "Беларусь" дацэнт **Яўген Майсейчык**, дацэнт **Валеры Гульніцкі**, старшыня кааператыва "БАС" **Валянцін Попель**, пісьменніца **Л. Шашкова**, **Міхась Лецка**, **Алесь Казлоўскі** і інш. Здымала гэтую сустрэчу беларуская тэлеперадача "Крок". Падчас гэтай сустрэчы мы з Майсейчыкам распрацавалі хітра-мудры план аднаўлення выдання "Рокаша". Тут трэба сказаць, што ў беларускім асяродку ў Казахстане практычна не было палітыкаў, але там усе выдатна разумелі значэнне хай сабе і прымітыўнай, але ўсё ж газеты "Рокаш", чаго не скажаш пра многіх сённяшніх палітыкаў.

Да нас ішлі лісты з запытамі, чаму газета не выходзіць? "Рокаш" быў другой у свеце пасля "Нашага слова" газетай ТБМ. Мы рэкамендавалі сваім чытачам пісаць на імя камандзіра нашай часткі. У сваю чаргу Майсейчык і Атрушкевіч арганізавалі некалькі такіх спецыяльных лістоў. І вось аднойчы, недзе ў лістападзе, выклікае мяне Палякоў. Заходжу. Сядзіць чытае ліст. Паглядзеў на мяне: "Ну ты даеш". "А што такое?" "Ведаеш адкуль гэты ліст? **З Якуціі.** А што тут пішуць? Тут пішуць, што **беларусы Аўстраліі хвалююцца**, чаму не выходзіць "Рокаш". "Ну, і правільна, хвалююцца"... "А мне што рабіць?" "Ну, не я ж забараняў газету". Задумаўся Віктар Барысавіч і загадаў выклікаць начфіна: "Як мы можам узяць грошы з Судніка за тое, што ён на дзяржаўнай тэхніцы друкуе сваю газету?"

А начфін быў жук яшчэ той. Гэта ён сумеў усе партыйныя складкі, што пад час ГКЧП тэрмінова здалі тыя афіцэры, якія не плацілі іх ужо па паўгода, не пералічыць па прызначэнні, а выдаў іх афіцэрскаму сходу. На гэтыя грошы былі куплены два відэамагнітафоны, на якіх потым круцілі парнафільмы. Палова цымусу ад тых фільмаў і заключалася ў тым, што круцяць іх на "партыйных" магнітафонах.

Таму начфін мог ведаць, што мая кандыдатура разглядаецца на пасаду першага намесніка камандзіра часткі, гэта значыць на пасаду яго непасрэднага камандзіра. А мо і не ведаў, але ён мудра адказаў што няма такога артыкула, каб браць грошы са свайго ж афіцэра. Магчыма, што ў той час такіх артыкулаў і не было. Малаверагодна, што і сёння яны ёсць, бо наўрад, каб недзе сёння ў вайсковай частцы друкавалася грамадская газета.

Начфін быў абазваны бесталковым і адпраўлены з кабінета. "Ну і што будзем рабіць?" – пытае Палякоў – "А, давайце, як раней, я буду друкаваць, а Вы рабіць выгляд, што нічога не ведаеце". "Ідзі !"

У лістападзе 1991 года выйшаў 9-ты нумар "Рокаша", якраз той, у якім быў рэпартаж пра 1-шы з'езд БЗВ.

10-ты нумар "Рокаша" выйшаў у снежні пасля Белавежскіх падзеяў. Газета разам з тым пісала і пра падзеі больш раннія. Адна з такіх падзей паседжанне каардынацыйнай рады БЗВ, якое адбылося 16 лістапада. Сёння некаторую цікавасць мае рэпартаж з тога паседжання. Вось што пісаў "Рокаш":

*"... Адкрыў паседжэнне старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч...*

*... З палітычным дакладам аб ваеннай палітыцы на Беларусі выступіў народны дэпутат РБ маёр Грыбанаў (сам родам з Браншчыны)...*

*... Далей з садакладам выступіў народны дэпутат РБ маёр Шэйман. Ён спыніўся на выніках працы сесіі ВС РБ, якая напярэдадні разглядала вайсковыя пытанні. Ён сказаў, што камандуючы БВА Кастэнка за адзіныя Ўзброеныя Сілы, а, значыць, і ўсе яго падхалімы таксама... На думку дэпутата фінансавы абвал наступіць у 1992 годзе, і менавіта тады адбудзецца развязка, а таму БЗВ неабходна актывізаваць працу, прапагандаваць ідэю Беларускага войска і збіраць больш дадзеных, як толькі можна, дапамагаць Рэспубліцы..."*

*(Працяг у наст. нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6. 12. 2004 г. Замова № 2378.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
*Кошт у розніцу:* 290 руб. (у Менску - 310 руб.)